*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*


# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 49 (480) 13 снежня 2000


## Папярэджанне адменена

ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ — ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ПЕЧАТИ

220048, Мінск, праспект Машэрава, 11. Тэл. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

07.12.2000 г. №02-14/3928
на №725 ад 3.11.2000 г.

Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"

***Аб адмене папярэджання***

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, разгледзеўшы ваша пісьмо ад 3 лістапада 2000 г. № 725, паведамляе.

Загадам Старшыні Дзяржкамдруку № 413 ад 06.12.2000 г. папярэджанне аб парушэнні Закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" № 49 ад 25. 10. 2000 г., вынесенае рэдакцыі газеты "Наша слова", адменена.

Старшыня М. В. Падгайны.

## Інфармацыйнае паведамленне

### Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Паведамляем, што 21 лістапада 2000 года ў памяшканні МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" пад старшынствам прэзідэнта арганізацыі Радзіма Гарэцкага адбылося пасяджэнне Рады, дзе было прынята рашэнне аб правядзенні, у адпаведнасці са Статутам МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", чарговага Трэцяга з'езду беларусаў свету. Аднагалосна прынята рашэнне, што Трэці з'езд будзе скліканы ў ліпені 2001 года ў г. Менску. Рада зацвердзіла склад Аргкамітэту і старшыню Рабочай групы па падрыхтоўцы з'езду.

Старшыня Рабочай групы:

Макоўская Алена загадчык арганізацыйна-юрыдычнага аддзела Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Старшыні Аргкамітэту:

Гарэцкі Радзім, прэзідэнт МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", Беларусь;

Кіпель Вітаўт, сябра Вялікай Рады, ЗША;

Герасімаў Валеры, намеснік старшыні Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", Беларусь;

Саверчанка Іван, сябар Управы і Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", Беларусь

Дадатковая інфармацыя па пытаннях падрыхтоўкі і правядзення Трэцяга з'езду беларусаў свету будзе дасылацца перыядычна.

Па ўсіх пытаннях звяртацца да старшыні Рабочай групы Алены Макоўскай.

Кантактныя тэлефоны: 289-31-94; 226-87-37

***Старшыня Рабочай групы Алена Макоўская.***

## V Міжнародныя Купалаўскія чытанні

7 - 8 снежня ў Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы прайшлі V Міжнародныя Купалаўскія чытанні "Янка Купала і праблемы беларускага самапазнання", арганізаваныя Міжнародным фондам Янкі Купалы сумесна з музеем. На чытаннях прагучалі 33 даклады і паведамленні.

Сярод выступоўцаў Іван Штэйнер, доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны (Гомель), Багуслаў Зялінскі, доктар філалогіі габілітаваны, прафесар, загадчык кафедры славянскіх літаратур Познаньскага універсітэта (Польшча), Уладзіслаў Завальнюк, магістр тэалогіі, пробашч касцёла святых Сымона і Алены, Вячаслаў Рагойша, доктар філалагічных навук, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ, Юры Гарбінскі, доктар гуманітарных навук, супрацоўнік Інстытута славістыкі Польскай Акадэміі навук (Варшава), Аляксей Каўка, доктар філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя Максіма Горкага (Масква), Мікалай Паўловіч, Вольга Паўловіч, Яўгенія Гуляева, сябры Даўгаўпілскай суполкі Міжнароднага фонду Янкі Купалы (Латвія), Леакадзія Мілаш, настаўніца Віленскай беларускай школы, Маргарыта Пярцова з роду Луцкевічаў (Санкт-Пецярбург), Алег Трусаў, старшыня ТБМ і інш.

У рамках чытанняў быў прыняты план дзейнасці Міжнароднага фонду Янкі Купалы да 120 годдзя з дня нараджэння песняра. VI Купалаўскія чытанні "Творчасць Янкі Купалы ў дыялогу культур" пройдуць у 2002 годзе.

Адбылася сустрэча ўдзельнікаў чытанняў з мастаком У. Басалыгам.

*Больш падрабязную інфармацыю і некаторыя даклады мы надрукуем у бліжэйшых нумарах.*

## ТРЭЦІ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ

### "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый"

***Другая сесія***




4-7 снежня 2000 г. у Менску прайшла Другая сесія Трэцяга міжнароднага кангрэсу беларусістаў **"Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый"**

***Даведка***

***Першы,***

*Устаноўчы, Міжнародны кангрэс беларусістаў адбыўся ў Менску 25-27 мая 1991 г.*

*На ім была створана Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, прынятыя яе статут, выбраны камітэт МАБ.*

*Матэрыялы кангрэсу ўвайшлі ў зборнік "Беларусіка= Albaruthenica – 1".*

***Другі***

*Міжнародны кангрэс беларусістаў "Беларусь паміж Усходам і Захадам: праблемы міжнацыянальнага, міжканфесійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу" адбыўся ў Менску 16-18 мая 1995 г. Яго матэрыялы былі выдадзены ў зборніку "Беларусіка= Albaruthenica – 6" (ч.1 і 2).*

***Трэці***

*Міжнародны кангрэс беларусістаў распачаў сваю работу 21 мая 2000 г. першай сесіяй "Беларусь і сусветная супольнасць: узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне культур (Да 2000-годдзя хрысціянства)".*

***За дзевяць год***

*Існавання асацыяцыяй было выдадзена 16 навуковых зборнікаў "Беларусіка= Albaruthenica", 60 нумароў бюлетэня "Кантакты і дыялогі", праведзена звыш 40 канферэнцый і "круглых сталоў". Сёння сябры ГА "МАБ" (усяго каля 650 асоб) ёсць у 24 краінах свету.*

На Кангрэсе працавалі чатыры секцыі:

Секцыя 1.

**Уклад беларускай культуры ў дыялог цывілізацый**

Падсекцыя 1.

**Гістарычны і культуралагічны аспекты праблемы.**

Падсекцыя 2

**Літаратуразнаўчы і мовазнаўчы аспекты праблемы.**

Секцыя 2.

**Фармаванне дзяржаўнасці і нацыянальнай свядомасці беларускага народа ў параўнанні і ўзаемадзеянні з аналагічнымі працэсамі ў суседніх краінах.**

Секцыя 3.

**Роля беларускай дыяспары ў дыялогу цывілізацый.**

Секцыя 4.

**Дыялог як сродак гарманізацыі адносін паміж канфесійнымі і этнічнымі супольнасцямі Беларусі.**

Заслухана некалькі дзесяткаў дакладаў. Асобныя матэрыялы Кангрэсу будуць надрукаваны ў газеце "Наша слова".

# НАШАМУ СЯБРУ – 60



Уладзімір Каліберда – наш самы сталы, самы шчыры і адданы сябар ТБМ ад моманту яго ўтварэння.

Нястомная, самаадданая і зусім, на першы погляд, незаўважная праца з людзьмі, з беларусамі, якую вядзе шаноўны сп. Уладзімір, дае плён, што не дазваляе варожым сілам канчаткова знішчыць у нас нашу мову, нашу самапавагу.

Ужо сам па сабе той факт, што ёсць, жывуць такія людзі, як сп. Уладзімір, Боскі дар нашай Радзіме.

На здзіўленне ўсяму свету і, найперш, расейскім акупантам, дзвесце год гвалту над беларусамі не даюць пажаданага для іх выніку. Жыве Беларусь, жыве душа народа – мова, жыве гонар чалавечы.

Бо жывуць на нашай Беларусі такія людзі, як шаноўны спадар Уладзімір Каліберда.

Мы, Рада ТБМ Кастрычніцкага раёну г. Менску зычым нашаму сябру, з Божай ласкі, моцнага здароўя, плёну нашай агульнай працы на карысць Бацькаўшчыны.

Віншуючы з паўналеццем сп. Уладзіміра – пажыццёвага паляўнічага, ад шчырага сэрца жадаем:

Няхай не бяднее паляўнічая фаўна Роднага краю.

Няхай Бог дае моцныя ногі, востры зрок, цвёрдую руку, трапны стрэл і паляўнічае шчасце.

**Рада ТБМ Кастрычніцкага р-ну г. Менску.**
**Старшыня Рады Ян Грыб.**

**МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ** | **МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**

Праспект Машэрава, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 223 75 74, 223 71 76
Тэлефакс (017) 223 90 45

Проспект Машерова, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 223 75 74, 223 71 76
Телефакс (017) 223 90 45

01.12.2000 г. № 05-06 / 5650
на № 713 ад 28.10.2000 г.

Старшыні Грамадскага аб'яднання
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны" Трусаву А. А.

**Аб прапановах па святкаванні 125-ых угодкаў з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч (Цёткі)**

У адпаведнасці з даручэннем Савета Міністраў Міністэрствам культуры сумесна з Нацыянальнай Акадэміяй навук Беларусі, Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку і Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь падрыхтаваны праект Плану мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да святкавання 125-ых угодкаў з дня нараджэння слыннай беларускай паэткі Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Зараз праект накіраваны на ўзгадненне ў Мінгарвыканкаме і Мінсувязі. Пасля гэтага згаданы праект будзе перададзены на разгляд Ураду.

Што датычыць абвяшчэння наступнага году годам Алаізы Пашкевіч, то дадзенае пытанне Грамадскім аб'яднаннем павінна было вырашыцца з Міністэрствам замежных спраў яшчэ ў першай палове бягучага года. Рашэнні па такіх пытаннях прымаюцца на ўзроўні ЮНЕСКА толькі па папярэдніх заяўках ад краін.

**Намеснік Міністра В. К. Гедройц.**

# ПРАЗ СМУГУ СТАГОДДЗЯЎ

Мастакі творчай суполкі "Пагоня" адзначылі дзвюма адметнымі выставамі, з'яднанымі адным назовам "Праз смугу стагоддзяў", святыя для Беларусі даты – 80-ыя ўгодкі Слуцкага збройнага чыну ды 650-годдзе ад дня народзінаў Вітаўта Вялікага.

Вобраз легендарнага князя ўвасоблены на выставе ў жывапісных палотнах Аляксея Марачкіна і Алеся Пушкіна, графічных аркушах Яўгена Куліка і Міколы Купавы, скульптара Алеся Шатэрніка. Глядзіш на велічную постаць гэтага гаспадара зямлі беларускай і міжволі ўзгадваюцца радкі Міколы Гусоўскага з "Песні пра зубра":

***Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы***
***Росквітам княства Літоўскага,***
***нашага краю,***
***І называлі той век залатым...***
***.............. дзяржаўца***
***Перад багаццем***
***і шчасцем зямным пастаянна***
***Ставіў багацце духоўнае – злата дзяржавы.***

Выдатны палітык і дыпламат, ён смела і рашуча, не шкадуючы жыцця, бараніў сваю зямлю ад чужынцаў і ўпершыню аб'яднаў у адзіную дзяржаву ўсе беларускія землі ў этнаграфічных межах. Да таго ж князь Вітаўт быў надзвычай адукаванаю асобай і сапраўдным найвялікшым нашым продкам – ведаў шмат моў, але ў жыцці карыстаўся мовай сваіх бацькоў і сваёй дзяржавы – беларускай...

Ва ўрачыстым адкрыцці выставы акрамя згаданых мастакоў бралі ўдзел гісторыкі Алег Трусаў, Сяргей Тарасаў, Мікола Крывальцэвіч, а таксама пісьменніца Вольга Іпатава. Акрамя прамоў гучалі старажытныя спевы і музыка. Цікавы факт. Старажытны гімн "Багародзіца", з якім нашыя ваяры ішлі калісьці на змаганне з чужынцамі, амаль ніхто з прысутных раней не ведаў і, што ўжо цалкам зразумела, ніколі не чуў.

Так атрымалася, што і думкі прамоўцы, як і назоў самой выставы, сягалі "праз смугу стагоддзяў" – ад часоў Вітаўта Вялікага да змагання за волю слаўных случчакоў у 1920-ым, ад перамогі нашых продкаў пад Грунвальдам да дзён сённяшніх, калі мы ўшаноўваем памяць сучаснага ваяра, сапраўднага рыцара "зямлі пад белымі крыламі" Уладзіміра Караткевіча.

Мастакі, што прысвяцілі свае творы Слуцкаму збройнаму чыну і спрычыніліся да выставы, не аднойчы вандравалі па мясцінах, палітых крывёю змагароў за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. Таму і ўражваюць сваёй праўдай і шчырасцю, эмацыйнай лучнасцю з даўно мінулай падзеяй графічныя аркушы Яўгена Шатохіна, Віктара Сташчанюка і Уладзіміра Васюка, краявіды Алеся Шатэрніка і Аляксандра Родзіна, яскравыя ў змесце і даканалыя ў форме плакаты Уладзіміра Крукоўскага, партрэт слуцкага змагара Уладзіміра Пракулевіча з-пад пэндзля Уладзіміра Сулкоўскага, жывапіснае палатно Віктара Маркаўца, дзе абарваны звон сваёй глухою нематой нібы імкнецца абудзіць нашы сэрцы і душы ад сучаснага летаргічнага сну...

І чарговым разам здзіўляе і абурае той факт, што цягам усяго часу незалежнасці Беларусі такія значныя для нашай краіны даты адзначаюцца выключна з ініцыятывы грамадскіх арганізацыяў альбо асобных грамадзян. Мабыць, толькі ім адным і дарагая гісторыя сваёй Радзімы, далёкая і блізкая, ім адным баліць за Беларусь, тую, што была, і тую, што сёння. Калі Вы з гэтага ліку, то звітайце на выставу ў галерэі Экалагічнага цэнтру (вул. Макаёнка, 8) і дакраніцеся да сваёй гісторыі, слаўнай і трагічнай, адчуйце яе подых, каб сябе адчуваць Чалавекам!

*Ірына Ляксеева,*
*Яна Дроздзіч.*

# Севастопаль беларускі

1. Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" адзначыла 160-годдзе вядомага вучонага біёлага Аляксандра Ануфрыевіча Кавалеўскага – ураджэнца Віцебскай губерні.

Аляксандр Кавалеўскі заснаваў Севастопальскі інстытут біялогіі паўднёвых мораў, які названы яго імем. Будынак інстытута і акварыюм пабудаваны з яго непасрэдным удзелам. Супрацоўнікі інстытута гасцінна адчынілі дзверы сябрам беларускага таварыства, расказалі пра навуковую дзейнасць славутага земляка, пазнаёмілі з яго працамі, паказалі акварыюм. Старшыні таварыства Валерыю Барташу былі ўручаны ксеракопіі дакументаў пра дзейнасць Аляксандра Кавалеўскага для ўручэння Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў у горадзе Менску.



**Старыя ялцінскія могілкі Крысціна і Злат Марачкіны каля магілы Максіма Багдановіча**

2. Сябры Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" здзейснілі ўзыходжанне да крушняў (руінаў) фартэцы ў Балаклаве, апетымі ў санеце Адама Міцкевіча "Крушні замка ў Балаклаве". Каля вежаў замка былі прачытаны вершы паэта, які памёр 145 гадоў назад у Канстанцінопалі з мараю пра свабоду Радзімы. На вяршыні гары быў устаноўлены бел-чырвона-белы сцяг.

3. Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" прыняло актыўны ўдзел у мітынгу памяці ахвяраў галадамору і палітычных рэпрэсіяў на Украіне. Згодна з Указам прэзідэнта Украіны ад гэтага часу кожная чацвёртая субота лістапада адзначаецца, як Дзень памяці ахвяраў галадамору і палітычных рэпрэсій на Украіне. У мітынгу прынялі ўдзел украінскія, крымскататарскія грамадскія арганізацыі і расейская грамадская арганізацыя "Народнапрацоўны Саюз". Прынята рэзалюцыя пра перайменаванне вуліцаў горада, якія носяць імёны камуністычных дзеячоў.

4. Ад Казарскага да "Наварасійска"

"Дзяды" – дзень Памяці прашчураў – адзначыла севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня ("Бацькаўшчына"). Удзельнікі шэсця прайшлі ад будынка царквы Святога архістраціга Міхаіла да помніка Аляксандру Казарскаму. Да помніка быў прывезены трохтонны адміралцейскі якар, падараваны Чарнаморскім флотам Расеі беларускаму гораду Дуброўна, дзе нарадзіўся Казарскі.

Адбылася цырымонія провадаў якара на Беларусь. Тут высупілі прадстаўнікі украінскага таварыства "Просвіта" (аналаг ТБМ), Фонду імя Г. Чаркашына, клубу аматараў гісторыі горада і флоту, Саюзу ўкраінак. Закончылася шэсце беларусаў на брацкіх могілках, дзе каля помніка маракам лінкора "Наварасійск" былі зачытаны імёны 29 маракоў, набраных на лінкор з Беларусі, адслужана імша, ускладзены кветкі. Ад імя беларускага таварыства, усіх севастопальцаў было накіравана спачуванне ў Беларусь родным і блізкім загінуўшых 45 гадоў назад у момант выбуху на караблі.



**Севастопальскае таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня". 28 кастрычніка 2000 года. Дзяды.**

Уладзімір Содаль

# НАВУКА,

## АБО ЯК Я АДСВЯТКАВАЎ СТОГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ РОДНАЙ ШКОЛЫ

### (не скарга, а споведзь)

Пра тое, што нашай школе ў двухтысячным годзе збудзецца сто гадоў, я ведаў загадзя і загадзя рыхтаваўся да гэтага шаноўнага юбілею. Збіраў звесткі пра настаўнікаў розных гадоў, пра гісторыю школы. Пра тое, якой была наша школа ў 1927-1930 гадах, шмат чаго мне расказвала мама і блізкія. Не прапускаў нагоды распытацца пра школу і ў іншых яе выхаванцаў. Вельмі цікавыя звесткі я меў і пра школу 1941-1944 гадоў. Якой была наша школа ў 1945-1955 гадах я ведаў сам, бо якраз гэтай парой вучыўся ў ёй. Пра ўсё гэта збіраўся расказаць на свяце школы. Але мінаў верасень 2000 года, а пра юбілей школы ніхто не заікаўся. Падумалася, што гэта была толькі мроя, што ніякага юбілею не будзе. І, раптам, за тыдзень ці болей прыходзіць запросіна на юбілей. Захваляваўся, затурбаваўся, затрывожыўся. Нішто не лезла ў галаву, нікуды не ехалася. Думалася толькі пра юбілей, пра сустрэчу з роднымі мясцінамі, з колішнімі сябрамі, з цяперашнімі вучнямі. Асабліва хацелася сустрэцца з дзяўчынкамі, што карэспандуюць з "Раніцай". Доўга думаў і пра тое, як мне дабрацца. На цягніку ехаць не вельмі хацелася: нездаровілася, дый камандзіроўку, як гэта было даўней, мне ніхто не даў. І тэхнікі тэлевізійнай не атрымаў. Былі моманты адчаю, дэпрэсіі, расчаравання. Хацелася на ўсё махнуць рукою і жыць у звычайным сваім рэжыме. Але разумеў: не паеду – буду шкадаваць усё жыццё. Буду пакутаваць, што не паехаў. З сваімі трывогамі, сумненнямі падзяліўся з сынам. Той падбадзёрыў і сказаў: "Не бядуй, тата! Сядзем і паедзем! Я завязу, не турбуйся. Мне гэта таксама цікава. Я ж не адно лета правёў у Мормалі... Там і мае карані..."і мы паехалі: я, выпускнік 1955 года, сын, нявестка і мая мама. Яна ж таксама тры зімы вучылася ў Мормальскай школе, была яе выхаванка. І ёй было цікава сустрэцца з сваімі аднавяскоўцамі, равесніцамі, таварышкамі. Усяго дзве з паловай гадзіны хуткай, з камфортам язды – і мы ў Мормалі. А здавалася мне, што мой той Мормаль бог ведае дзе. Гэта склаўся стэрэатып з часу паездак на цягніку. А вось на машыне больш як двухсоткіламетровую адлегласць адолелі ўсяго за дзве з паловай гадзіны.

Роўна а дванаццацтай гадзіне дня мы былі на падворку Мормальскай школы. Якраз гэтай парою празвінеў школьны званок, які абвяшчаў аб пачатку ўрачыстасці. Люду сабралася, як на фэст. Тут былі вучні ўсіх пакаленняў. Не ведалася, з кім першым павітацца, з кім загаварыць. Не ўсе пазнаваліся. Я пакінуў роднае мястэчка больш за сорак гадоў таму. Тым не менш якісь душэўны зрух на абліччы таго ці іншага земляка – і ты пазнаеш: "Павел?! Коля!? Ніна?!" – на душы ўзрушана хораша. Але адчуваеш: за гэтым пазнаннем вялікі прамежак часу. А за імі невядомасць, як хто пражыў гэтыя гады...

Але вось ужо пачалася ўрачыстасць з нагоды сотага юбілею школы. Зала паўнюткая. Сярод ганаровых гасцей сам міністр асветы Васіль Стражаў, старшыня Дзяржаўнага Камітэту Народнага Кантролю Анатоль Тозік. Ён выхаванец гэтай школы. Абодва сказалі кожны сваё слоўка прыгожа і па-беларуску. Пазнаю сярод іншых Ігара Карабанава, аўтара шматлікіх падручнікаў для школ. Пазнаю сваіх настаўнікаў – Міхала Варанкова, Пятра Шабеку... А на сцэне юная мормальчанка Тацццяна. Яна вядзе ўрачыстую вечарыну, таксама па-беларуску, пяшчотна і шчыра. Больш за тры гадзіны доўжылася ўрачыстасць. А пасля было застолле – асобна для дзяцей і асобна для гасцей. Здавалася, нічога змрочнага, самотлівага, пакутлівага мяне не чакала ў той дзень, апрача шчаслівай узрушаннасці, радасці. Думалася: сёння ўвесь дзень школе, а заўтра – лес, грыбы, сустрэча з землякамі. Меркаваў на другі дзень спаткацца з Лізаветай Гладкай, жонкаю настаўніка Максіма Гладкага, які, прайшоўшы ўсю вайну, загінуў ля ганку свайго новага збудавання дома. Чакала мяне на другі дзень і цётка Мар'я Свістунова. Яна мне абяцала наспяваць жменю найцікавых даўнейшых песняў. Планаваў я на другі дзень спаткацца і з сваімі аднагодкамі, равеснікамі, каб запісаць іхнія ўспаміны, як каму з іх запомнілася апошняя вайна. Але ўсяго гэтага мне не давялося здзейсніць. Дзесь а гадзіне дзясятай вечара вырашылі, што пара і адпачыць і загнаць машыну ў той двор, дзе нам ветліва прапанавалі пераначаваць. Але не праехалі мы мо і сотні метраў, як адкуль ні вазьміся з вясковай цемры, як з засады вынырнула машына і ўключыла мігалку. Машыну я бачыў, але мігалку не зауважыў, яе заўважыў сын і паслухмяна спыніў сваё аўто. А мог і не спыняць, а чаму – зразумееце далей. Якраз мы праехалі масток праз нашу Мормальскую рачулку Язнач, ці інакш, Малгу. Гэтая мясціна ў Мормалі бязлюдная, незаселеная. І вось тут усё пачалося. За некалькі хвілін усе мы зрабіліся злачынцамі ды не абы-якімі, а тымі, што зрывалі пагоны з міліцыі, нагрудныя знакі, хацелі пабіць вокны ў машыне, мацюкаліся, зневажалі прэзідэнта... Ну, але пра ўсё парадку...




Не гэтак даўно мы апублікавалі нарыс Уладзіміра Содаля "Мова маёй вёскі", прысвечаны сотай гадавіне ягонай роднай школы. Не ведаў тады аўтар нарысу, што яго чакае на юбілеі, як яму родная Жлобіншчына аддзячыць за гэта.

Пасля таго, як наша машына спынілася, падышоў прапаршчык і папрасіў дакументы. З дакументамі ў нас усё было ў парадку. Тады той жа прапаршчык папрасіў адчыніць багажнік. І ў гэтым яго воля была выканана. Наступнае яго пытанне было:

-А як з самаадчуваннем?

На што адказаў я:

-Мы вяртаемся з стогадовага юбілею школы. Вядома, з гэтай нагоды былі на абедзе... А вось зараз гонім машыну ў намоўлены двор на начлег. Гэта недалёка – яшчэ метраў дзвесце-трыста. І калі нам выпала такая нечаканая сустрэча, то будзьце ласкавыя – сядзьце хто з вас за руль, калі лічыце, што мы самі нездольныя даехаць, і адвязіце нас для начлегу, і на гэтым увесь наш канфлікт будзе вырашаны, а ваша паслуга будзе аплочана згодна з дзеючым дзяржаўным тарыфам.

Аднак гэтыя мае словы не былі пачутыя, і майму сыну прапанавалі сесці ў машыну, на якой еxаў патруль. Аднак сын запярэчыў:

-Я ў вашу машыну садзіцца не буду: на ёй няма ніякіх апазнавальных міліцэйскіх знакаў. Гэта прыватная машына, і я не ведаю, хто вы і куды вы мяне павязеце і што вы з мною зробіце.

У машыне, якая спыніла нас, апрача аднаго міліцэйскага, сядзеў цывільны і моўчкі назіраў за нашым спектаклем... Мо таму, што ўсе яны былі незнаёмыя, то падаліся людзьмі падазронымі, выклікалі насцярожанасць...

Тады міліцэйскія паказалі свае пасведчанні. Але гэта нас не вельмі пераканала: колькі хочаш і ў міліцэйскіх формах, і з пасведчаннямі ўчынена злачынстваў. Мы пра гэта чуем, чытаем, бачым. І гэтую насцярожанасць з нас ніхто і ніколі не здымае, пакуль і сярод міліцэйскіх, і сярод апранутых пад іх будуць чыніцца злачынствы.

Сын прапанаваў весці перамовы па-за машынай. Аднак жа ўсё ж сеў. Вядома, ён быў разгублены, як усе мы, збянтэжаныя. Ніхто з нас не думаў, што гэтак для нас закончыцца святкаванне юбілею школы. Мы дзесьці спадзяваліся на паразуменне: як-ніяк мы госці, запрошаныя госці і нікуды не едзем: вось толькі паставім машыну ў двор і ляжам адпачываць. Але нашы, нечаканыя сярод цемры, апекуны настойвалі на складанні пратаколу. Сын мардузіў, спрабаваў адпрасіцца ці неяк інакш уладзіць нечаканы канфлікт. Не памятаю як – я быў у шоку – імгненна абвастрыўся гіпертанічны крыз, сын выкараскаўся з машыны і стаў побач з ёй. У гэты момант раздаўся загад: "Хопіць з ім важдацца, надзець наручнікі." І сына майго, як мне здаецца, памяркоўнага, рахманага, пачалі распінаць на капоце, гнуць, а затым і піхаць у машыну...

Мяне гэтак пакуль яшчэ не распіналі, не піхалі. Але я адчуваю, якое прыніжэнне перажывае чалавек, не разбойнік і не бандыт, але з якога імгненна робяць злачынцу. Ці ў такім стане чалавек здольны нармальна сябе паводзіць і натуральна думаць?

А як павінен адчуваць сябе бацька, на вачах якога гэта ўсё робіцца? Я адзінае што зрабіў – таксама працягнуў свае рукі і сказаў:

-Бярыце і мяне ў кайданы.

На мае рукі кайданы ніхто не наклаў. Мне сказалі, што я тут ні пры чым, што я магу спакойна ісці і спаць! У мяне тут жа вырвалася: "Хто ж гэта можа пасля ўсяго гэтага спакойна спаць?!"

На мой кліч ніхто нічога не адказаў. Але я зразумеў, што мы ўжо ўсе ператвараемся ў злачынцаў, і я запатрабаваў у Марата, каб ён падпісаў пратакол. Той адказаў: "Падпішу, але не такі, які яны хочуць, а такі, як усё было на самой справе". Гэта, мусіць, канчаткова вывела з сябе міліцэйскіх, і яны сына ўжо ў кайданах на руках піхалі ў машыну. Але тут актывізавалася нявестка. Яна пакуль стаяла збоку і толькі кідала рэплікі і ўсё дбала пра мяне, казала: "Перад вамі стаіць шаноўны чалавек, пісьменнік, даследчык, ваш госць... Ён жыве ў пастаянным ціску. У яго зараз не менш за 240 на 120..." Але ўсе гэтыя яе кленчы не былі пачутыя. Раздаўся загад везці Марата на Жлобін. І тут нявестка неяк падлаўчылася і ўскочыла, хоць яе і адпіхвалі, у міліцэйскую прыватную машыну: "Калі ж мяне там не будзе, яго паб'юць, скалечаць, адаб'юць ныркі і лёгкія!" Яе спрабавалі вываляць як-небудзь з машыны, але гэтая валтузня, калі б міліцэйскія праявілі больш энтузіязму, магла скончыцца якімсь калецтвам, і яны махнулі на яе рукой: "Хай едзе!" Гэтак, утрамбаваўшы салон прыватнай машыны, з маім сынам і нявесткай, узялі кірунак з Мормаля на Жлобін. Развярнуліся і паехалі ўсё далей і далей ад нашага месца адпачынку. Сведкамі гэтай нашай валтузні былі якісь дзве мормальскія вульгарныя дзяўчыны, якія ішлі з Задзярэўкі. Убачыўшы гэтую нашу тузаніну, адна з іх сказала: "Што вы ім байкі расказвайце! Дайце ім пятнаццаць-дваццаць баксаў, і яны ад вас адчэпяцца..." Міліцэйскаму гэтая рэпліка не спадабалася, і ён трохі прыпужнуў іх:

-Идите, идите! Не мешайте работать!

А між тым, дзяўчаты тыя мацюкаліся на чым свет стаіць. Вось зручны момант спыніць і за "нецэнзурную брань" аштрафаваць. Ну, але хлопцы былі занятыя больш важнымі злачынцамі. Нас везлі на дзвюх машынах: на першай, прыватнай міліцэйскай, сына і нявестку, на нашай еxаў я і прапаршчык Марозаў. Да мяне ён быў ветлівы і карэктны. Размаўлялі на розныя тэмы. Гаварылі і пра тое, што сёння здарылася. Але карэктнасць была адносная. На мае рукі кайданы ніхто не наклаў: мусіць жа ён разумеў, што я перажываю, што я мушу перажываць усё тое, што гэтак ні з таго, ні з сяго нечакана раскруцілася між намі. Гаварылі мірна, але гаворка была якаясь тупіковая. Я спрабаваў скіраваць яе на якую-небудзь станоўчую развязку, але машына, разразаючы цемру, везла нас у Жлобінскі пастарунак. Шчыра прызнаюся: хваляваўся, усё сачыў за пярэдняй машынай. А раптам гэта не міліцэйскія і дзе-небудзь ужо выкінулі сына і нявестку з машыны. І гэтае самае зробяць праз нейкі час са мною. Паўтаруся: шмат такога чуў і чытаў. Але, хвала Богу, ехалі спакойна і гутарылі мірна, як даўнія знаёмыя. Але ж, мірна то мірна. Але чаму ж такое напружанне? Няўжо ў нашай сітуацыі не было іншага вырашэння, як кайданы, дастаўка ў пастарунак, а не да гаспадыні, якая ласкава чакала нас. Да яе двара было метраў трыста-чатырыста. Да Жлобіна ж кіламетраў дваццаць...

Ну, але, гэта мне здавалася, што так было б лепей. Нашы ж ахоўнікі парадку думалі трошкі інакш.

Вось мы ўжо пераезд праз чыгунку пераехалі. Павярнулі направа. Праз нейкі час параўняліся з вёскай Залужжа ці, інакш, Аляксандроў. Між волі з гэтай нагоды прыгадалася зіма 1943 года. Нас, мормальцаў немцы павыганялі з нашых бліндажоў і пагналі сярод ночы ў цемру, у невядомасць. Мне тады было гадкоў шэсць. Аляксандроў была першая вёска, дзе мы правялі рэштку трывожнай, і магло стацца, апошняй ночы. І вось зноў цемра і невядомасць, на гэты раз пасля свята школы. І мне ўжо не шэсць, а шэсцьдзесят тры. Тады гналі пад руляй вінтоўкі ды аўтаматаў, а зараз... Цяпер аднаго з нас, з нашай сям'і, "аздобілі" кайданамі на руках, як самага адпетага злачынцу. Крыўдна і горка! Асабліва, калі ты госць, калі ты нікуды не збіраўся ехаць, калі ты збіраўся адпачыць, каб заўтрашні дзень пачаць з сустрэч з землякамі і не проста так, дзеля настальгіі, з-за настальгіі, а дзеля карысці сваіх землякоў, дзеля летапісу краю. Я ўжо згадваў, якія ў нас былі планы на другі дзень пабыўкі. Але нашым планам не наканавана было здзейсніцца.

***(Заканчэнне ў наступным нумары.)***

Наша слова № 49(486) 13 СНЕЖНЯ 2000 г. Вострая брама 5

**Аляксей Саламонаў,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар**

# ДУМКІ ПРА БЕЛАРУСКІ НАРОД І ЯГО ЗАДАЧУ Ў РОЗНЫХ СТАНАХ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСТВА

### 1. Што думае пра тое сам прэзідэнт Беларусі?

Па яго глыбіннаму перакананню і на думку аддадзенай яму прыслугі ягонае задача ў тым, каб напаіць нас, абы як дахам накрыць, накарміць і абагрэць. Адназначае вынікае з усіх яго бясконцых выказванняў паўсюдна. А каб працсй здзейсніць тое, ён з усіх сіл штурхае Беларусь у ненасытную пашчу Расеі пад злачынна хлусьлівыя спевы аб стварэнні адзінай самастойнай дзяржавы, у якой быццам будзе таксама дзве поўнасцю самастойныя дзяржавы: Беларусь і Расея пад яго непасрэдным началам. Але ж, па-першае, беларускі народ – не хатняя жывёла А.Р. Лукашэнкі, бо створаны Богам з іншай мэтай. А, па-другое, такая адзіная дзяржава – бязглуздзіца. Там мы хутка ператворымся ў абслугу "вялікага і магучага" рускага народа.

### 2. Меркаванне апазіцыі пра гэтую задачу

Колькі б мы ні аналізавалі апошнія апазіцыйныя выказванні, колькі б ні чыталі артыкулы самых апазіцыйных газет, пэўных, канкрэтных адказаў на пастаўленае ў загалоўку пытанне знайсці там практычна немагчыма. Бо іх там проста няма. Пакажам тое, разглядаючы канкрэтныя прыклады.

У артыкуле "Беларускі вопыт байкотаў фальшывых выбараў" ("Народная воля" ад 31 кастрычніка 2000 г.) аднаго з вядучых лідэраў апазіцыі-прафесара Хадыкі Ю.В. у якасці той задачы апошняга часу называецца "змаганне за ўладу". Тое ж самае, але ўжо на працяглы час, я знайшоў у інтэрвію Міхаіла Чыгіра – у тым жа нумары "Народнай волі". Аднак улада сама па сабе бывае рознай і можа мець розныя мэты і, нават, супрацьлеглыя вынікі (напрыклад, у Рузвельта і Сталіна, Чэрчыля і Гітлера, Садама Хусейна і Маргарэт Тэтчар, Станіслава Шушкевіча і Аляксандра Лукашэнкі). Разгарнуўшы гэтую ж газету за 4 кастрычніка, я вельмі пільна ўглядаўся ў артыкул А. Старыкевіча – другога "вядучага лідэра апазіцыі". Толькі там таксама не знайшоў шуканага. Бо ўхваленне "Акта незалежнасці", прынятага "Усебеларускім з'ездам" напярэдадні – далёка не галоўнае (хоць і важкае). Таму што, напрыклад, фашысцкая Германія была больш чым незалежнай. Аднак гэта не перашкодзіла ёй штурхаць самую сябе на самазнішчэнне ў сусветнай крывавай бойцы. Адносна артыкула "Без роднай мовы не адчуеш сябе чалавекам" ("Народная воля" ад 18.10.2000г.) можна сказаць, што руская мова паўсюдна панавала ў Расеі і СССР, а нямецкая – у той жа фашысцкай Германіі. Але ад гэтага названыя дзяржавы не перасталі быць драпежнымі. Апроч таго можна прывесці нямала гістарычных прыкладаў, калі знікалі дзяржавы і нават народы, заснаваныя на сваёй роднай мове.

З артыкула Васіля Якавенкі ("Ці будзе ў Беларусі створаны народны фронт" ("Народная воля" за 28.10.2000г.) вынікае, што зараз галоўная задача для беларускага народа заключаецца ў стварэнні "Беларускага патрыятычнага фронту" (або руху), які можна таксама называць "Беларускім патрыятычным фронтам" (або рухам). Але куды прывёў Германію адзіны фашысцкі патрыятычны фронт, напрыклад, відома. Можна сказаць: адзначаныя франты непараўнальныя. Аднак любы "фронт" без акрэсленай мэтавай задачы можа прывесці куды заўгодна.

Нічога для адказу на пастаўленае ў загалоўку артыкула пытанне не знайшоў я і ў аб'ёмным артыкуле Зянона Пазняка "Камунізм як форма рускага імперыялізму" ("Народная воля" ад 15.09.2000г.), бо гэтыя выказванні з мноствам паўтораў ужо проста не ўспрымаюцца. Да таго ж – камунізмам там і не пахне.

Ну, думалася, знайду шуканы адказ у Сяродзіча І.П., як вядучага апазіцыйнага журналіста. Толькі ў якасці галоўнага там знайшоў такое захапленне: "Калі б быў выкарыстаны шведскі вопыт" і "дзесяткі тысяч асуджаных выйшлі ў нас на волю для адбыцця тэрміну пакарання не ў турме, а ... пад хатнім наглядам", "колькі б было сэканомлена дзяржаўных грошай, наколькі б палепшыліся ўмовы ўтрымання ў турмах астатніх асуджаных" ("Народная воля" ад 4.10.2000 г.). Толькі так і хочацца сказаць Іосіфу Паўлавічу, што па-першае, сучасная Беларусь – далёка не сучасная Швецыя, што прыйшла яна да сучаснага стану праз ВЕЛЬМІ ЖОРСТКІЯ ВЫКАРЧОЎВАННІ ЗЛАЧЫНСТВА. А, па-другое, калі пашырыць тыя захапленні, то любую дзяржаву можна давесці да абсурду праз імкненні дагадзіць злачынцам. У нас, напрыклад, выпушчаныя з турмаў дзесяткі тысяч зняволеных (вядома не такіх як Старавойтаў або Лявонаў) праз год-два падрыхтуюць сабе замену ў сотнях тысяч экзэмпляраў. Бо знаходзяцца там зараз у асноўным оберзладзеі, рабаўнікі, бандыты, забойцы і гвалтаўнікі. І калі не выхаваць іх, або не зламаць іх злачынную сутнасць, то яны проста ператвораць грамадства ў табун нелюдзяў.

У разгляданых адносінах здзіўляе мяне і доктар філасофскіх навук, прафесар Вячаслаў Оргіш, які ў цэлым у сваіх карысных, але ў пэўнай ступені заблытаных артыкулах простае відавочнае здатны ўскладніць да звышпраблем, а самае складанае спрасціць. Так, у артыкуле "Приговор привести в исполнение" ("Народная воля" ад 2 лістапада 2000 года) галоўным лічыць "борьбу за возвращение в Беларусь демократии...". Толькі пры такім спрошчанні беларускіх праблем трэба ўспомніць, што менавіта дэмакратыя прывяла да ўлады Гітлера ў Германіі і Пуціна ў Расеі. Абагульнена нельга згадзіцца і з ягонай фразай: "дела в экономике". Бо, напрыклад, на Украіне жывуць не лепей, чым у нас. Але ў цэлым сваім прэзідэнтам Кучмам там задаволены. Таму што чалавечае ў людзях стварае не эканоміка, а іх свядо-масць з улікам абставін. Адпаведна, чым вышэй сукупная свядомасць грамадства, тым параўнальна хутчэй і лепей яно ўздыме сваё эканамічнае становішча. Цемрашалы ж, змешчаныя нават у райскія ўмовы з пазалочанымі палацамі, у рэшце рэшт апаганяць, прап'юць іх і зноў вернуцца ў жабрацкі стан.

### 3. Погляд на гэтую задачу сучасных каранаваных пісьменнікаў Беларусі

Не знайшоўшы адказаў на пастаўленае пытанне ў галоўнай апазіцыйнай газеце Беларусі, я звярнуўся ў "Комсомольскую правду" і "Труд" в Беларуси", якія маюць прэтэнзіі на павышаную інтэлектуальнасць. У першай з названых газет (ад 20.10.200г.) знайшоў артыкул надзвычай галоўнага пісьменніка Беларусі Уладзіміра Някляева, у якога "любовь к Беларуси как... к живому существу, которое надо сберегать, о котором надо ежедневно думать" (стр.14, артыкул "Владимир Некляев думает про Беларусь"). Гэта вельмі добра, хоць і па-руску напісана, відаць, таму, што "Комсомольская правда в Беларуси" беларускафобная ў моўных адносінах ва ўласна карысных мэтах. Толькі галоўнае для Беларусі шаноўны Уладзімір сфармуляваў наступным чынам: "Вот если бы ... белорусы рождались, абсолютно об этом не задумываясь, и жили бы белорусами, тоже абсолютно не помышляя об этом, тогда бы и образовалась та сказочная Беларусь, о которой мы все сегодня столько говорим и читаем". Толькі ж, зыходзячы з рэалій існасці, пры ўсёй павазе да Уладзіміра Пракопавіча вымушаны сказаць яму наступнае.

- Чалавек любой этнічнасці і нават звышгеніяльнасці не можа "рождаться задумываясь" ці не задумываясь наогул, а тым больш – аб сваёй этнічнасці, якую часта называюць нацыянальнасцю. Бо яшчэ не існая істота не можа планаваць – пазбаўлена рабіць штосьці, а тым больш – ствараць.

- Калі "жить белорусом, тоже абсолютно не помышляя об этом", гэта значыць не думаючы аб лёсе роду беларускага, то ён проста знікне. І невядома каму тое шчасце, аб якім піша Уладзімір Пракопавіч, дастанецца. Аб пагрозе такога поўнага знікнення кажуць наступныя лічбы: "Калі ў 1997-1998 навучальным годзе ў першых класах Менска вучылася на беларускай мове яшчэ 7,3 працэнты дзяцей ад агульнай колькасці першакласнікаў, то ў 1998-1999 годзе гэты паказчык зменшыўся ўжо да 4,86 працэнта... І ўжо зусім страшэнна малая лічба (усяго 108!) беларускамоўных выпускнікоў 11 класаў. І гэта на 2-х мільённую сталіцу, дзе каля 80 працэнтаў грамадзян – беларусы". (Саламонаў А.А. "Этнацыд беларусаў нарастае" – у навуковым зборніку "Аняменне", Вільня. "Cudas". 2000г., стар.181). У дадатак да сказанага ўлічым, што ў выпускнікоў школ Беларусі цалкам адсутнічае перспектыва працягу беларускамоўнага навучання ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, мова поўнасцю выцясняецца з грамадскага ўжытку. Яна становіцца зусім непатрэбнай у нашай радзіме. Калі так працягнецца (пагроза чаму рэальная), то праз 1-2 пакаленні беларусаў, як этнасу, не стане зусім. У выніку з цэльнага, непарыўнага ланцуга агульначалавечай супольнасці выпадзе непаўторнае, самабытнае 12-мільённае (тых хто ў свеце адносіць сябе да беларусаў) звяно беларускага этнасу. Чалавецтва збяднее ад гэтага. Бо Бог не выпадкова стварыў разнастайныя этнасы: А каб праз добразычлівае ўзаемадзеянне тых рознасцяў забяспечыць умовы для безупыннага развіцця ўсяго чалавецтва. Таму КАРАВУЛ трэба крычаць на ўвесь боскі свет, SOS ратуйце!!! Пасылаць УСЯМУ ЛЮДУ, а "не жить белорусом, не помышляя об этом" да чаго заве Уладзімір Някляеў, пакінуўшы нас сам на сам з сатанічна-знішчальным наступам на род БЕЛАРУСКІ.

Яшчэ горшае ўражанне ў гэтых адносінах зрабіла на мяне Святлана Алексіевіч сваім артыкулам "МЫ – ЛЮДИ ЛАГЕРНОГО СОЗНАНИЯ" ("Труд" от 19.10.2000г). Яна там не раіць нам шукаць якіясьці адказы. Яна проста ў расчараванні "на два года уехала в Европу – сначала в Италию, потом во Францию" (з таго ж артыкула). І не для таго, каб адтуль дапамагаць Беларусі і змагацца за яе народ, за захаванне і развіццё роду беларускага, што нават у сталінскіх турмах рабіла ЛАРЫСА ГЕНІЮШ – сапраўды ВЯЛІКАЯ ДАЧКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА. А каб "абстрагироваться от специфических белорусских проблем, от устаревшей системы ценностей, насаждаемых нашей стране", пісаць кніжку аб "вечной охоте (любви – аўт.)". Чаму? А таму, што:

- "мы – люди лагерного сознания"; "во власти не оказалось тех, кто мог бы генерировать новые идеи" (праўда – не названыя ёю); "люди из оппозиции – такие же заложники прошлого"; "их национальный романтический шаманизм привел к поражению"; "лидеры оппозиции разговаривают с народом на разных языках", а "бацька" для народа свой"; "интеллигенция, элита общества – чужаки в своей стране"; што ёй "стыдно смотреть, как немолодые сельские женщины ползают на коленях по полю – выкапывают картошку"; што "мы никогда не будем голландцами"; што яна (Алексиевич) "отказывается понимать людей, существующих на руинах". Больш таго, яна з незадавальненнем піша ў наш адрас: "чего стоят только одни лозунги: "Людьми звацца! Беларусь, занимай свое место среди народов" – "и это (павучае яна нас, лагернікаў) в теперешнем мире, где преобладают новые технологии...".

Не буду зараз аналізаваць, прабачце, усю гэтую чухну за адсутнасцю часу і месца. Упэўнена скажу толькі наступнае:

- гісторыя паставіць у свой час залаты помнік нашай апазіцыі нягледзячы на ўсю яе сучасную недасканаласць; нацыянальныя ідэі – не шаманізм, а неадступнае патрабаванне часу, каб пры любых найнавейшых тэхналогіях захаваць ЧАЛАВЕКА І ЗБЕРАГЧЫ ЭТНАСЫ І НАЦЫІ З МЭТАЙ забеспячэння станоўчага ўзаемадзеяння іх рознасцяў, прадугледжаных ад Бога, для безупыннага самаўдасканалення ўсяго чалавецтва; сапраўдная інтэлектуальная эліта ў нас ёсць і ёй не "не стыдно", а нясцерпна балюча глядзець на пакуты народа і яна робіць, будзе рабіць і ў многім ахвяравець сабою, каб узняць з руінаў свой народ, яго самасвядомасць, яго чалавечую годнасць і скіраванасць не толькі людзьмі звацца, але і прыстойна быць імі, каб дапамагчы яму ГАНАРЛІВА ЗАНЯЦЬ СВАЁ МЕСЦА Ў ЦЫВІЛІЗАВАНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ НАРОДАЎ. Святлане ж Алексіевіч, выпадкова ўзнятай нядаўняй хваляй афганскага часу, застанецца роля не саўдзельніцы, а старонняй самаўзвышанай назіральніцы, якая і зараз "не испытывает той бедности, в которой живет ... наш народ" (цытаты з таго самага артыкула С. Алексіевіч, якая, дарэчы, ніколі не піша па-беларуску).

Погляды іншых прадстаўнікоў амаль што чатырохсотай грамады Саюзу пісьменнікаў Беларусі аналізаваць не буду, хоць яны не заўжды супадаюць з меркаваннямі іх старшыні Някляева У. П. Ёсць у тым асяродку і рашучыя, ваяўнічыя заклікі. Аднак абагуленага, уратавальна-вядучага там няма.

### 4. Пэўны адказ дае аналіз думак беларускіх асветнікаў і мысліўцаў часоў росквіту нашай дзяржавы ў сярэднявеччы

У гэтым сэнсе з глыбінь гістарычнай думкі той мінуўшчыны найбольш узвышаюцца неўміручыя постаці Сымона Буднага (каля 1530 г. – 13.1.1593 г.) і Васіля Цяпінскага (каля 1540 г. – 1603? г.). Першы з іх – "беларускі гуманіст, асветнік, рэлігійны рэфарматар, філосаф, сацыёлаг, гісторык. Скончыў факультэт вольных мастацтваў Кракаўскага універсітэта, і магчыма тэалагічны факультэт Базельскага універсітэта. З 1558 г. выкладаў на беларускай мове катэхізіс у пратэстанцкай школе ў Вільні" ("Энцыклапедыя гісторыі Беларусі". Том 2. Мінск. 1994 г., стар.115). У 1572 г. ён выдаў Біблію, а ў 1574 г. У Лоску (каля Валожына), Новы Запавет з прадмовай і каментарыямі і заўвагамі, што было першай у сусветнай літаратуры спробай радыкальнай рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніжак. Гэтым ён фармаваў беларускае вольнадумства, прагрэсіўную ідэалогію найбольш развітой часткі тагачаснага беларускага грамадства. Яго намаганнямі фармавалася і ўкаранялася (праз уплыў на беларускае шляхецтва) нацыянальная свядомасць беларусаў. Гэтая дзейнасць спрыяла рэалізацыі ягоных ідэй развіцця беларускай мовы, самабытнасці і культуры.

*(Заканчэнне на ст. 6.)*

